## Алег ТРУСАЎ:

# «Веру ў наша адраджэнне»

*Дзеля чаго жыве чалавек? Пытанне рытарычнае. У кожнага свой адказ на яго. Ёсць ён і ў Алега Трусава — вучонага, народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, лідэра партыі Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада.*

Хаця, прызнаюся, банальнае пытанне аб сэнсе жыцця я не ставіў перад Алегам Анатольевічам. Яно ўзнікла потым, калі слухаў магнітафонную стужку, калі перачытваў запісы нашай размовы, аналізаваў шматлікія выступленні ў друку. Адказ з'яўляўся сам сабою: каб ствараць дабро. Але што ёсць дабро? І на гэта пытанне кожны шукае свой адказ. І сваёй справай яго пацвярджае. Ці не пацвярджае. Вынік падводзяць людзі: сучаснікі і нашчадкі. З бліжэйшага кола жыцця, а мо і краіны, свету. У залежнасці ад маштабу асобы, маштабу спраў. Але, па вялікаму разліку, крытэрый тут заўжды адзін — ці шчыра жыў чалавек, ці на карысць людзям пайшлі яго словы і справы.

Гэта ўсё добра вядома гісторыку і палітыку Алегу Анатольевічу Трусаву.

Ён нарадзіўся ў Мсціславе ў 1954 годзе. Так здарылася, што вырас пад наглядам бабулі і прабабулі. Зведаў сірочы хлеб, але не быў абдзелены ласкай і ўвагай, хаця і рана застаўся без бацькоў. Алег Анатольевіч ганарыцца сваім родам, пралічыў яго мо на 200 гадоў. Штосьці і ў ім ёсць шляхецкае, узнёслае, шчырае. Ён сціпла ўсміхаецца, ці то згаджаецца, ці то проста вяртаецца ў думках да высноў, да сваіх каранёў.

Гонар за свой род, што са шляхты аднадворцаў, які пакаленнямі аб'ядноўвала праца на зямлі і сірочае дзяцінства.

Ці не адсюль працавітасць і нястомнасць Трусава? Школу скончыў з залатым медалём. На гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта быў ленінскім стыпендыятам. Потым рэстаўрацыйныя майстэрні. Выбраў менавіта іх, хаця прапаноўвалі найбольш прывабныя пасады. Па тым часе, вядома. Скажам, кафедра КПСС. Чаму не пайшоў, што стрымала?

— Мне пашанцавала, — зазначае Алег Анатольевіч і зноў усміхаецца.

Сваяк, пуцілаўскі рабочы, за плячыма якога былі ўсе рэвалюцыі, сталінскія і фашысцкія лагеры, аднойчы сказаў яму: «Не вер, унучак, гэтым камісарам, да дабра яны не давядуць...»

Вось так. Чаму ўрэзалася ў памяць і прымушала думаць, аналізаваць? Мабыць таму, што дзед і сёстры апавядалі пра тое ж самае. А вось у падручніках чытаў іншае. Вырашыў стаць гісторыкам, дакапацца да ісціны. Ва ўніверсітэце засеў за класікаў. Здзівіўся, калі выявіў: частка работ Маркса і Энгельса ў савецкі час была проста забаронена. Чаму? Ці не ў тым прычына, што тыя творы датычацца расійскай імперыі? Супастаўляў, аналізаваў.

І калі шчыраваў археолагам, працаваў над кандыдацкай дысертацыяй, і калі выратоўваў ад знішчэння гістарычныя помнікі. Дарэчы, дзеля апошняга, па ўласнай ацэнцы, і ў партыю ўступіў, нават быў сакратаром партыйнай арганізацыі. Цяпер з многімі работнікамі райкомаў сустракаецца на сесіях Вярхоўнага Савета. Пагаварыць ёсць аб чым. І ўспомніць. Хоць бы той эпізод, калі, прачытаўшы сакрэтны ліст пра Афганістан, нечакана быццам стукнула токам, зразумеў і ўслых ускрыкнуў:

— Хлопцы! Такую вайну нельга выйграць, а значыць і дзяржава, што распачала яе, хутка ляснецца...

Ды што цяпер пра тое гаварыць. Трэба пра сённяшні дзень дбаць па-сапраўднаму.

— Мне, — гаворыць Алег Анатольевіч, — не сорамна перад людзьмі сваёй выбарчай акругі. Прыярытэт нашых законаў дасягнуты. Дэпутацкі клуб створаны. Павялічаны сродкі, якія выдаткоўваюцца на культуру. Жыццё ўвогуле? Далёка не мёд, агульная сітуацыя няўмольна пагаршаецца. Рост цэн, інфляцыя.

Яго трывожыць, што раскрадаецца дзяржаўная маёмасць, працвітае карупцыя. Што рабіць?

Пытанне, адказ на якое для Трусава надзвычай просты: скарыстаць усе магчымасці незалежнай дзяржавы, аб'яднаць намаганні ўсіх дэмакратычных, здаровых сіл грамадства, каб выпрацаваць і ажыццявіць сапраўдныя рэформы. Яны ж, па сутнасці, і не пачыналіся. Наменклатурны ўрад і такая ж большая частка Вярхоўнага Савета не прымае своечасовых і дзейных захадаў, каб палепшыць эканамічнае становішча. Хто свядома змагаецца за вяртанне да былога ладу, хто проста не можа з большай карысцю працаваць на палітычнай ніве. Адсюль і адставанне, прамаруджванне на многіх жыццёва важных напрамках. Апошняе шматразовае павышэнне цэн, на думку Трусава, сведчыць, што ўсе рэзервы ўтрымаць сітуацыю стабільнай без рэфармавання амаль вычарпаны. Небяспека сацыяльнага выбуху як ніколі вялікая. Палітычныя рашэнні выступаюць на першы план. Гэта новыя выбары і стварэнне кааліцыйнага ўраду.

**З РАЗМОВЫ З Алегам Трусавым:**

**— Адмовіўшы ў правядзенні рэферэндуму, цяперашні Вярхоўны Савет загнаў сябе ў прававы тупік. Сітуацыя можа скласціся так, што восенню адбудуцца вялікія змены. Маю на ўвазе стварэнне ўрада народнага даверу на кааліцыйнай аснове. Тады, заняўшы больш палавіны месц у міністэрствах, прадстаўнікі новых дэмакратычных партый нададуць рэформам эфектыўны характар, тады і жыццё наша палепшыцца.**

*Нагадаю, што ідэю стварэння кааліцыйнага ўрада на аснове шырокіх кансультацый з прадстаўнікамі дэпутатаў Саветаў розных узроўняў, прафсаюзаў, палітычных партый — вылучыла і абгрунтавала больш года назад Партыя народнай згоды. Па яе ж прапанове яна абмяркоўвалася на пасяджэнні Каардынацыйнай нарады дэмакратычна-палітычных сіл. Аднак выразных разумення і падтрымкі не атрымала. І вось, здаецца, прыйшоў яе час. Яна гучыць усё больш моцна. Аб сумеснай распрацоўцы мадэлі кааліцыйнага ўрада, механізма яго стварэння дамовіліся ПНС і БСДГ. «Заўсёды дамагацца законнага права на стварэнне ўрада народнага даверу» — у якасці першачай задачы на сучасным этапе вызначыла ў «Праграмнай дэкларацыі» партыя Беларускі навукова-вытворчы кангрэс. Патрабаванне аб стварэнні ўрада народнага даверу ўвайшло ў рэзалюцыю мітынга, арганізаванага прафсаюзамі 21 чэрвеня з нагоды павышэння цэн.*

У сваёй палітычнай дзейнасці Алег Анатольевіч бачыць два бакі. Першы ўключае штодзённую працу на сваім месцы. Як дэпутата, намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны. Тут у яго такое крэда: зрабі тое сёння, што будзе позна зрабіць заўтра. Не ўсё ўдаецца, але ж на рахунку ёсць справы, якімі можна смела ганарыцца. Узяць закон аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны. Грунтоўны, добры законатворчы акт. Зараз рыхтуюцца законы аб архівах, бібліятэках, музеях. Ён таксама ўскладвае на чарговыя дакументы вялікую надзею, імкнецца ўнесці ў іх не толькі вопыт і веды, але і часцінку душы.

Другі бок — працаваць на нейкую перспектыву, выступаць на мітынгах, сходках. Алег Анатольевіч лічыць, што на гэта можна сабе даць дазвол, калі ладзяцца справы на тым, першым накірунку. Калі ж палітык толькі мітынгуе, забыўшыся на будзённыя клопаты, ён хутка знікае з палітычнай сцэны.

Яшчэ Алег Анатольевіч — намеснік старшыні парламенцкай апазіцыі, старшыня Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Адраджэнне — вось стратэгічная мэта яго і паплечнікаў.

**З РАЗМОВЫ З Алегам Трусавым:**

**— Усё вызначае гістарычная свядомасць. У свой час шмат дзеля росквіту Беларусі рабілі Аляксандр Чарвякоў, Цішка Гартны. Упэўнен: не было б у нас праблем з культурай, каб у 30 -я гады іх не рэпрэсіравалі, не расстралялі. Ідэя незалежнасці ўсё ж выспела. Таму, вядома, садзейнічалі аб'ектыўныя змены ў грамадстве. Цяпер галоўнае заключаецца ў тым, каб гістарычнае самаўсведамленне прыйшло да ўсіх, закранула розныя слаі насельніцтва. Працэс ідзе, яго ўжо не спыніць...**

Алег Анатольевіч аднолькава ўпарта дбае пра вяртанне да нас роднай мовы, нацыянальнае адраджэнне ў арміі. Тая ж вайсковая сімволіка. Колькі спрэчак было, сустрэч з прадстаўнікамі ваеннага ведамства. Ён верыць, што з цягам часу будзе ў роднай краіне надзейная армія. Іншая справа, каб працэсы рэфармавання войска ішлі хутчэй.

Абранне старшынёй Цэнтральнай рады БСДГ прыбавіла Трусаву новых клопатаў. Але ж суткі не расцягнеш на некалькі дадатковых гадзін. Як паспець зрабіць усё, што заўтра зрабіць будзе позна? Ён спадзяецца на актыў. Бо адзін у полі тут не воін. Грамада, па меркаванню Трусава, павінна выконваць тры функцыі: ліберальную, сацыял-дэмакратычную і функцыю нацыянальнага адраджэння. Якому накірунку аддаць перавагу? Мабыць, нельга рубануць шабляй па партыйнай дзейнасці, раздзяляючы яе на кавалкі. Але ад самога Трусава раптам пачуў зусім іншае меркаванне. Яно датычыцца прыватызацыі, у прыватнасці, зямлі.

**З РАЗМОВЫ З Алегам Трусавым:**

**— Калі мы не выратуем зямлю, не выратуем і ўсё астатняе. Зямельная рэформа — вось што патрэбна нам, як паветра. Кожны грамадзянін павінен атрымаць пэўную зямельную квоту, няхай гэта будзе дзесяць сотак, але ж, займеўшы магчымасць вольна распараджацца сваім надзелам, чалавек зможа адчуць сябе гаспадаром, кавалём свайго лёсу. Хочаш — станавіся фермерам, уступай са сваім паем у калгас альбо прадай. У нас стварыўся б трывалы клас сярэдняга ўласніка. А пасля ўжо можна пашырыць прыватызацыйныя працэсы, прадаць людзям фабрыкі, заводы і іншую дзяржаўную маёмасць.**

Мабыць, час пакажа, ці мае рацыю Алег Анатольевіч. Сацыял-дэмакратычная Грамада не заклікае людзей ні ў капіталістычны, ні ў камуністычны рай. Яна за тое, каб пабудаваць грамадства роўных магчымасцей, у якім не было б людзей бедных і пакрыўджаных. Прынятая на другім з'ездзе БСДГ праграма якраз і адлюстроўвае асноўныя накірункі будучых пераўтварэнняў.

Пажывём — пабачым, ці здзейсняцца яны. Ды толькі не выходзіць з галавы сказанае Алегам Анатольевічам правіла, правіла жыцця і дзейнасці: зрабі сёння тое, што заўтра зрабіць будзе позна.

Ён засяроджваў маю ўвагу на гібкай эканамічнай палітыцы, якой пакуль, на яго думку, у дзяржавы няма. Эканамічны саюз? Што ў нас агульнага з краінамі Сярэдняй Азіі альбо з далёкімі рэгіёнамі Расіі, тым жа Уладзівастокам? З Расіяй патрэбны толькі двухбаковыя пагадненні, прытым аўтарытэт павінен быць у адносінах з Татарстанам, іншымі рэгіёнамі, адкуль, скажам, паступаюць нафта, розная сыравіна ці камплектуючыя. Раней, зазначае Трусаў, мы выступалі за Балтыйска-Чарнаморскі саюз. Зараз Грамада вылучыла мадыфіцыраваны варыянт — малая Еўрапейская супольнасць.

Апошнім часам многіх народных дэпутатаў цягне за мяжу. Цікаўлюся, чым заканчваецца гэтыя ваяжы, якую карысць прыносяць. І яшчэ: што ўражвае яго самога за тым "кардонам"? Пачую, што за мяжой нідзе не быў, акрамя, хіба, суседняй Польшчы, якую наведвае па справах, звязаных з адраджэннем, захаваннем гістарычнай спадчыны. Не так проста дэпутату ад апазіцыі адправіцца куды-небудзь далей, а, па-другое, часу вольнага няма. Наконт уражання сказаў па-свойму.

**З РАЗМОВЫ З Алегам Трусавым:**

**— Асаблівых уражанняў у мяне няма. Памятаю, у 85-м годзе турыстам ездзіў у Фінляндыю за ўласныя грошы. Зразумеў, што там пабудавана нармальная сацыяльная дзяржава. Дарэчы, быў скарыстаны вопыт бальшавікоў. Чагосьці зайздроснага там не ўбачыў. Наадварот. Па адукацыі, напрыклад, мы знаходзімся значна вышэй. А гэта — сур'ёзныя прадумовы для лепшага жыцця.**

Ён гаварыў спакойна і ўпэўнена. Падумалася: можа сапраўды зажывём калі-небудзь па-людску. Як хочацца! Ці ж мы горшыя?

Толькі што для гэтага патрэбна? Сённяшні Вярхоўны Савет, мабыць, не здольны на прыняцце тых законаў, якія б адпавядалі інтарэсам народа. Тады, слухаючы Трусава, усё думаў, што перабольшвае ён, што святло ў канцы тунэля нарэшце з'явіцца. І вось — чарговая сесія. Зноў пераважае ў яе рабоце гаварыльня. Асноўны закон — Канстытуцыя, хутчэй за ўсё, як і меркаваў Алег Анатольевіч, не будзе прынята. Ва ўсякім разе, у новым яе выглядзе, менавіта чаго патрабуюць час і жыццё. Не прымаецца дакумент, накіраваны на барацьбу з карупцыяй, якая ўсё глыбей пускае карэнні ў глебу нашага няўладкаванага побыту. Урад тое і робіць, што адказвае на чарговы рост цэнаў нейкім павелічэннем заработнай платы...

Тупік? Ды не, надзея пакуль ёсць. Бо ёсць сярод нас людзі, якія па-сучаснаму клапоцяцца пра лёс Бацькаўшчыны.

Уладзімір ЦІМОХІН

# III УСЕБЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ КАНФЕРЕНЦЫЯ

## НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ, НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ РАЗВІЦЦЁ, ДЭМАКРАТЫЯ

*Пад такім дэвізам 6 ліпеня прайшла III Усебеларуская палітычная канферэнцыя. З 91 яе дэлегата большую палову складалі прадстаўнікі замежжа, якія прыехалі на I з'езд беларусаў свету.*

Падрыхтоўчую работу правялі партыі і рухі дэмакратычнага накірунку, у тым ліку і Партыя народнай згоды.

Удзельнікі канферэнцыі заслухалі даклады: «Берлінская канферэнцыя 1925 года. Палітычныя варункі, рашэнні, вынікі» (Анатоль Сідарэвіч), «Палітычная сітуацыя ў сучаснай Беларусі» (Зянон Пазняк), «Прынцыпы канстытуцыйнага і дзяржаўнага ладу дэмакратычнай, незалежнай Беларусі» (Аляксандр Дабравольскі). З садакладамі выступілі адпаведна, Янка Запруднік — рэдактар газеты «Беларус» (Нью-Йорк, ЗША), Алег Трусаў — старшыня БСДГ, Валянцін Голубеў — намеснік старшыні БНФ.

Былі прынятыя рэзалюцыі: «Аб рашэннях II Усебеларускай палітычнай канферэнцыі», «Аб палітычным становішчы ў Беларусі», «Аб дзяржаўным і канстытуцыйным ладзе Рэспублікі Беларусь». Удзельнікі канферэнцыі выказаліся за працяг традыцый дэмакратычнай беларускай дзяржаўнасці, закладзенай у 1918 г.

Большасць настойвае на тым, каб Рада БНР працягвала сваю дзейнасць да таго часу «пакуль у Рэспубліцы Беларусь на падставах дэмакратычнага выбарчага закону не будзе прынятая дэмакратычная Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, пакуль у краіне не ўсталюецца палітычная і эканамічная дэмакратыя, пакуль з Беларусі не будуць выведзены ўсе замежныя войскі».

Дэлегацыя ПНЗ устрымалася ад падпісання першай з названых рэзалюцый, з некаторымі агаворкамі далучылася да двух наступных.

## ВЫСТУПЛЕННЕ Аляксея КАРАЛЯ

Трэцяя Усебеларуская палітычная канферэнцыя самім фактам свайго правядзення і адным з асноўных пытанняў звернута да гісторыі.

І гэта апраўдана, бо гісторыя і сучаснасць станаўлення нашай дзяржаўнасці знітаваны так цесна, што многія працэсы дня сённяшняга не зразумець, калі не бачыць іх вытокі, іх развіццё праз час. Апраўданы зварот і да рашэнняў папярэдняй канферэнцыі: аднаўляючы традыцыю, варта асэнсаваць урокі былога. Але ж ці апраўдана ацэнка, якую нам прапануе даклад і адпаведная рэзалюцыя: прызнаць рашэнні Другой Усебеларускай палітычнай канферэнцыі гістарычнай памылкай?

Беларусь па прычыне свайго геапалітычнага становішча на працягу ўсёй сваёй гісторыі была аб'ектам барацьбы паміж Усходам і Захадам. Дзеячы беларускага нацыянальнага руху вымушаны былі ўлічваць гэты фактар з тым, каб абярнуць яго на карысць нацыянальнаму адраджэнню, стварэнню беларускай дзяржаўнасці. Адпаведна ў нацыянальным руху вызначыліся дзве плыні: усходняя (прарасійская) і заходняя (прапольская, прагерманская) арыентацыі.

Арыентацыя пэўнай часткі беларускіх дзеячаў на савецкую ўладу была нічым іншым, як формай, прагматычнай усходняй арыентацыі, дзеля ажыццяўлення ўсё тых жа ідэалаў нацыянальнага адраджэння. У многім разлік іх даў свой плён. Менавіта ініцыятывай, намаганнямі гэтай плеяды нацыянальных дзеячоў, сярод якіх Аляксандр Чарвякоў, Зміцер Жылуновіч, Усевалад Ігнатоўскі, многія іншыя, была створана БССР, пашырана яе тэрыторыя, праведзена беларусізацыя ў 20-я гады.

Так, усё гэта было фармалізавана, зведзена на нішто. Але ўявім сабе, што гэтага б не было. Што мелі б мы на сённяшні дзень: Заходнюю вобласць у складзе Расіі? Ці змаглі б мы падняцца з гэтага ўзроўню да нашага сённяшняга, хай сабе пакуль і папяровага суверэнітэту. Не прайшлі дарма, не страчаны і набыткі палітыкі беларусізацыі 20-х гадоў: імі ў многім сілкуецца цяперашняя адраджэнская хваля.

Падзеі тыя ўжо адышлі ў гісторыю, людзі — іх творцы і ўдзельнікі — адышлі ў нябыт. Іх лёс скончыўся трагічна, уласным жыццём аплацілі яны свае памылкі, нават калі гэта былі памылкі. І не трэба думаць, што яны не падазравалі, чым можа абярнуцца для іх іх выбар. Яны свядома рызыкавалі, калі не ахвяравалі, сабой у імя ажыццяўлення ідэалаў Беларускага Адраджэння. І калі б не агульны паварот у палітыцы ў канцы 20-х на ўсталяванне таталітарнага рэжыму, думаю, пытанне аб памылковасці іх выбару нават не ўзнікла б.

Зразумела, што рашэнні II Усебеларускай канферэнцыі, як і ўсе падзеі гісторыі, падлягаюць суду. Але менавіта суду гісторыі. Гісторыкаў, філосафаў, палітыкаў, проста грамадзян, і кожны з іх мае права на свае ацэнкі, сваю трактоўку. І таму ні адна з іх не з'яўляецца прысудам. Іншая справа вердыкт пэўных палітычных сіл, вынесены на палітычным сходзе, занатаваны ў адпаведнай рэзалюцыі. Ён штучна знімае гістарычную дыстанцыю, адмяняе шматварыянтнасць, альтэрнатыўнасць развіцця падзей, і галоўнае — цалкам замкнёны на сучасную палітычную сітуацыю, падпарадкаваны пэўным палітычным мэтам. Адна з іх выразна сфармулявана ў праекце рэзалюцыі: падцвердзіць легітымнасць Рады БНР, што існуе ў эміграцыі, зацвердзіць неабходнасць яе дзейнасці да таго часу, пакуль у Рэспубліцы Беларусь на падставах дэмакратычнага выбарчага закона не будуць праведзены выбары ў новы парламент, пакуль не будзе прынята новая Канстытуцыя, не будуць выведзены з рэспублікі ўсе замежныя войскі, пакуль не ўсталюецца ў краіне палітычная і эканамічная дэмакратыя.

Мэты добрыя, але ж ці варта ў непасрэдную барацьбу за іх уцягваць Раду БНР, надаючы ёй статус своеасаблівага альтэрнатыўнага ўрада ўраду, які зараз існуе ў Беларусі. Барацьба і за новы парламент, і за новы ўрад павінна вырашацца тут, на Беларусі. У рамках закона, парламенцкімі сродкамі.

**Зыходзячы з вышэйсказанага, выканкам Партыі народнай згоды, палічыў мэтазгодным устрымацца ад падпісання рэзалюцыі «Аб рашэннях II Усебеларускай канферэнцыі».**

Гісторыя і сучаснасць... Так склалася, што час фарміравання нацыянальных дзяржаў на еўрапейскім кантыненце даўно скончыўся. Дзяржавы, што склаліся тады, прайшлі свой шлях станаўлення, перажылі свае падзенні і ўзлёты, дасягнулі высокага ўзроўню развіцця і зараз уступілі ў інтэграцыйны працэс. Беларусь жа ўсё яшчэ шукае свой шлях да незалежнасці і самастойнасці, але разам з тым і шлях у еўрапейскую супольнасць.

Як сумясціць гэтыя рознагачасовыя пласты, рознаскіраваныя арыентацыі на Усход і на Захад? Як вырашыць гэтыя складаныя задачы? Адмовіцца ад сцвярджэння сваёй дзяржаўнасці, сваёй самастойнасці, пайсці ў фарватары палітыкі толькі аднаго з бакоў, ці аддацца на волю толькі інтэграцыйным працэсам?

Безумоўна і адназначна — не. Гэта азначала б добраахвотны выхад цэлай нацыі з геапалітычнай прасторы, добраахвотнае адмаўленне ад гістарычнага шансу стаць урэшце дзяржаўнай нацыяй.

**Пільна ўглядаючыся ў мінулае, узважана аналізуючы сучаснае, цвяроза ацэньваючы набыткі і страты ў справе адраджэння ад часоў даўніх і па дзень сённяшні, мы можам знайсці апору ў наступным.**

Мы — старажытная нацыя, карані якой ідуць з глыбінь тысячагоддзяў. І разам з тым мы — маладая нацыя, якая толькі набірае моц і разбег. Не шкадаваць аб стратах, не стварыць штучна міфы, а працаваць на дзень сённяшні з перспектывай на будучыню. У нашай нацыі свае веліч і гонар, як у мінулым, так і сучасным.

Усведамленне сваіх каранёў — глеба для фарміравання нацыянальнай свядомасці. Усведамленне ж сябе маладой нацыяй — глеба для абуджэння стваральнай энэргіі народа.

Сказаць сабе: «Мы — нацыя!» І адначасова сказаць: **«Мы — народ Беларусі!» Усе — беларусы, рускія, яўрэі, палякі, украінцы...** Хто пражывае на Бацькаўшчыне і хто некалі ці нядаўна па волі лёсу, ці па ўласнаму жаданню з'ехаў за яе межы, пражывае ў іншых краінах. Быць удзячным, карысным краіне, што дала прытулак, што стала новым домам, і не забыцца аб доме родным, па магчымасці быць карысным яму. Бацькаўшчына — дыяспары, дыяспара — Бацькаўшчыне. Сіла народа ў адчуванні еднасці.

У напластаванні эпох і рознагачасовых працэсаў дакладна вызначыць свой шлях адбудовы дзяржаўнасці, сваё месца сярод краін свету. Не парываючы сувязей з Расіяй, уплісацца ў агульнаеўрапейскі інтэграцыйны працэс такім чынам, каб пазбегнуць небяспекі пераўтварэння ці то ў перыферыю Расіі, ці то ў правінцыю Еўропы.

## ВЫСТУПЛЕННЕ Леаніда ЛОЙКІ

Шаноўнае спадарства.

Хацеў бы, карыстаючыся гэтай магчымасцю, пазнаёміць паважаных удзельнікаў і гасцей III палітычнай канферэнцыі з палітычным курсам Партыі народнай згоды, якую я тут маю гонар, як і калега А. Кароль, прадстаўляць.

Партыя народнай згоды паўстала амаль два гады назад як аб'яднанне людзей, цвяроза і рэальна ацэньваючых сітуацыю ў Беларусі і вакол яе. Члены партыі адразу ж заявілі аб сваёй адмове ад рэвалюцыйных намераў, аб жаданні дабівацца паступовых пераўтварэнняў, рэфармавання ўсяго ладу жыцця Беларусі. Канчатковымі, галоўнымі мэтамі сваёй дзейнасці ПНЗ абвясціла суверэнітэт і бяспеку дзяржавы, дабрабыт і годнасць яе грамадзян. Мы імкнёмся прытрымлівацца здаровага сэнсу ў палітыцы, але і на гэтым шляху ...

У сённяшніх, больш складаных абставінах ПНЗ бачыць галоўнай перадумовай выйсця Беларусі з крызісу дасягненне агульна-нацыянальнай згоды аб шляхах рэфармавання гаспадаркі і грамадскага ладу Беларусі.

Дзеля дасягнення такой згоды, згоды большасці насельніцтва нашай краіны, **мы лічым патрэбным ужо зараз, не адкладваючы «на пасля» распачаць шырокія палітычныя кансультацыі і перамовы паміж прадстаўнікамі ўрада, мясцовых органаў ўлады, дэпутацкіх фракцый, прафсаюзаў, прадпрымальніцкіх колаў, палітычных партый, грамадскіх рухаў.** Ініцыятарам такога агульнанацыянальнага форуму маглі б стаць урад, альбо прэзідыум Вярхоўнага Савета, а калі яны на гэта не пойдуць — патрэбна ініцыятыва грамадскасці, палітычных партый. Вынікам агульнанацыянальнага форуму павінна быць:

1. Грамадскія пагадненні аб умовах падтрымання палітычнай і сацыяльнай стабільнасці ў дзяржаве на час пераадолення эканамічнага крызісу, умацавання незалежнасці;

2. Праграма рэканструкцыі народнай гаспадаркі і выйсце з крызісу;

3. Прапанова Вярхоўнаму Савету аб фарміраванні і ўмовах працы кааліцыйнага ўрада народнага даверу.

Заклік стварэння дэмакратычнага і працаздольнага ўрада мы лічым сёння вельмі актуальным і з задавальненнем адзначаем, што яго падтрымоўваюць усё больш грамадска-палітычных арганізацый.

Такі ўрад, калі ён быў бы створаны, павінен неадкладна распачаць перабудову гаспадаркі і ў тым ліку:

— утаймаваць інфляцыю, увесці нацыянальную валюту;

— перагледзець структуру прамысловасці, перапрафіліраваць энерга- і металаёмістыя вытворчасці;

— правесці паступовае раздзяржаўленне гаспадаркі і частковую прыватызацыю;

— выкарыстаць геаграфічнае палажэнне Беларусі, заняць у міжнародным падзеле працы месца паміж Усходам і Захадам, дзеля чаго збудаваць інфраструктуру міжнароднай сувязі, банкаўскіх, пасрэдніцкіх, транспартных, складскіх, пераапрацоўчых паслуг. Забяспечыць дзяржаўныя гаранты для змяшчэння замежнага капіталу, а перш за ўсё спрыяльных умоў, ... для беларускай дыяспары;

— нарэшце, абараніць сельскую гаспадарку ад вынікаў інфляцыі і канкурэнцыі з боку заходніх тавараў. Дэмакратызацыя і акцыяніраванне калгасаў, і галоўнае тут — перадухіліць далейшае рассяленне беларускай вёскі, не дапусціць знікнення апошніх асяродкаў Беларушчыны!

Найбольш спрэчнай можа здацца наша знешнепалітычная платформа. На падставе глыбокага агляду геапалітычнага палажэння і ўнутрыпалітычнай сітуацыі нашай краіны нам бачна неабходнасць замацаваць суверэнітэт Беларусі на ўсенародным рэферэндуме, каб назад дарогі не было. У аснову афіцыйнай знешняй палітыкі незалежнай Беларусі мы прапануем пакласці на бліжэйшы перыяд эканамічны, палітычны, а калі спатрэбіцца — дык і вайсковы саюз з Расіяй. Разумнай альтэрнатывы гэтаму саюзу ў нас няма.

Лічым, што гэта была б зусім невялікая плата за падараваную лёсам незалежнасць, за стабільнасць знешняга і ўнутранага палажэння Беларусі.

## ЗАВОД «Электроника» ДОЛЖЕН ВОЗРОДИТЬСЯ

*Классическим примером номенклатурной приватизации стал случай с заводом «Электроника» Минского НПО «Интеграл».*

Исповедуя новые рыночные веяния и прикрываясь коммерческой тайной, некоторые заводские начальники путем создания коммерческих предприятий — акционерных обществ «Мегасан», «Торн», «Караван» — сколотили немалый частный капитал. Весьма ограниченный круг лиц, злоупотребляя служебным положением, два года назад стал распоряжаться государственной собственностью в личных интересах. Многотысячный трудовой коллектив, за исключением нескольких лиц, приближенных к начальству, оказался обведенным вокруг пальца.

В ответ на коллективное письмо работников завода Контрольная палата Верховного Совета РБ создала комиссию, в которую вошли работники прокуратуры, Госимущества и налоговой инспекции Минфина. Комиссия выявила множество нарушений, составила акт, на основании которого сейчас принимаются меры. Освобожден от занимаемой должности директор завода «Электроника» А. М. Василевич. Ситуацию, сложившуюся на заводе, будет рассматривать Высший хозяйственный суд республики.

О положении на заводе, о принимаемых мерах для его подъема рассказал исполняющий обязанности директора завода «Электроника» **Леонид Петрович Ануфриев:**

— На заводе крайне тяжелое финансовое положение. Долг завода поставщикам сырья, материалов, комплектующих изделий составляет 545 миллионов рублей. Взято кредитов под разные проценты 400 миллионов рублей. Получается почти миллиард. АО «Мегасан», присвоившее оборудование завода по остаточной стоимости, должно 973 миллиона рублей. У него трудности со сбытом.

Удивительно, но факт — на заводе «Электроника» нет Совета предприятия. В декабре 1991 года, когда осуществлялся переход союзной собственности в республиканскую, завод перешел от Министерства электронной промышленности СССР в собственность Республики Беларусь и передан в ведение Госкомпромышленности. Именно в то время был утвержден новый Устав завода, но Совет предприятия в соответствии с новым Уставом не был создан.

Согласно замыслу «прихватизаторов» завод «Электроника» вышел из организованнных на его базе акционерных обществ и «Мегасан» стал забирать львиную долю его прибыли. А если бы завод был в составе АО «Мегасан», он получил бы часть прибыли согласно долевому участию. Прибыль, минуя трудовой коллектив, шла в карманы частных лиц. За два года на заводе не было освоено ни одного нового изделия. Раньше выпускались 54 модели часов, сейчас только 35. Выпуск вычислительной техники резко упал, товаров народного потребления выпускалось на треть меньше, перспектив на выпуск новой продукции никаких, зарплата среди заводов объединения самая низкая. Коллектив лихорадит, царит нездоровая обстановка.

Обновленное руководство завода приняло ряд мер по стабилизации работы предприятия. Восстановлена должность главного инженера, им стал Василий Иванович Толкачев. Создан альтернативный отдел сбыта, который возглавил Виктор Александрович Масаковский. Теперь ему придется конкурировать с прежним отделом сбыта, который «увел» «Мегасан». Производится структурная перестройка руководства завода. Восстанавливаются порванные связи с СКБ «Немига», которое раньше активно участвовало в разработке новых изделий для завода. Госкомпромышленности дал согласие на членство своих представителей в создаваемом Совете предприятия. Каждую неделю проводятся отмененные прежним руководством производственные совещания, на которых главный вопрос — проблемы сбыта. Приняты решения о выпуске только тех изделий, которые имеют спрос.

Коллектив завода считает справедливым и закономерным возврат предприятию созданной им собственности. А пока АО «Торн» на требование вернуть контрольный пакет акций ответило отпиской. Те лица, которые занимались разбазариванием народной собственности, не собираются возвращать, и усиленно продвигают идею со взятием завода в аренду. Нынешнее положение завода «Электроника» таково, что территориально, энергосетями, коммуникациями он переплетен с заводами им. Дзержинского и «Транзистор», и всякое обособление для него губительно.

Лица, стоящие за акционерными обществами, обобрали 2,5 тысячи заводчан, переманили отдел сбыта, лишили завод его «сердца» — инструментальных цехов. Считаю, что переход на навязываемую аренду только ускорит крах завода. Чтобы не было накала страстей, чтобы люди спокойно работали, чтобы трудовому коллективу вернули его собственность на законном основании, есть один выход — созыв профсоюзной конференции, но не такой, как раньше, когда делегаты тщательно отфильтровывались. Считаю, что последнее слово за трудовым коллективом.

Таково мнение руководителя предприятия. Так же считают тысячи заводчан. Кто же возьмет верх в этом споре? Кучка «прихватизаторов» или трудовой коллектив?

Вячеслав ИЩЕНКО.

 

# ДЗЕЛЯ АДРАДЖЭННЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## НАТАТКІ З ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

*Тры дні — з 8 па 10 ліпеня — працаваў у самым вялікім тэатры Мінска — оперы і балету — гэты незвычайны з'езд. Незвычайны па саставу: на кліч згуртавання «Бацькаўшчына» адгукнуліся 1200 нашых землякоў з 23 краін. У прыватнасці з ЗША прыехала дэлегацыя ў саставе 108 чалавек, з Расіі — 98, Польшчы — 72, Канады — 16, Англіі — 11, Аргенціны — 9 чалавек.*

Незвычайны, бо дэлегатамі былі тыя людзі, якія па волі лёсу шмат гадоў назад пакінулі Беларусь, але ў сваіх сэрцах захавалі любоў да роднай зямлі, да народных традыцый, да мовы і культуры.

Незвычайны тэмай размовы, якая вялася на пленарных пасяджэннях, на сустрэчах «за круглым сталом» у тэатрах імя Янкі Купалы і дзіцячым, Акадэміі навук, Доме літаратара, — пра еднасць беларусаў, аднаўленне чалавечай годнасці, стварэнне самастойнай дзяржавы, дзе б кожны адчуў сябе чалавекам з вялікай літары.

Незвычайны моўным каларытам і нацыянальным росквітам. Славутая «Пагоня» Максіма Багдановіча ўзнёсла гучала ў перапынках паміж выступленнямі, а дзяўчаты і юнакі ў прыгожым нацыянальным убранні прапаноўвалі розныя мастацкія вырабы.

Незвычайны нават надвор'ем. Напярэдадні, як з вядра ліў дождж, а тут раптам неба праяснілася, бліснула цёплае сонейка, ласкаючы сэрцы гасцей і ўсіх прысутных.

### З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

У Рэспубліцы Беларусь жыве каля 8 мільёнаў беларусаў (78 працэнтаў усяго насельніцтва). Па-за яе межамі аселі прыкладна 3 — 3,5 млн. Гэта значыць, што амаль кожны трэці беларус знаходзіцца ў замежжы. Так, у Польшчы пражывае 350 тысяч беларусаў, у Расійскай Федэрацыі — 1 мільён 206 тысяч, на Украіне — 440, у Казахстане — 1 мільён 183 тысячы... Устойлівыя беларускія асяродкі склаліся ў ЗША, Канадзе, Аргенціне, Аўстраліі, у Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі, Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі.

Безумоўна, з'езд такога ўзроўню — сапраўднае свята. Але з самага пачатку ён выйшаў на абмеркаванне сур'ёзных праблем, якія хвалююць беларускі народ на раздарожжы сучаснага жыцця, на скрыжаванні сённяшняга і заўтрашняга ладу. Размову ў гэтым накірунку пачаў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Ён нагадаў аб цяжкім лёсе беларускай нацыі, раз'яднанай, разбэрсанай і раскіданай ва ўсіх сэнсах. Патрэбна аб'яднанне, калі мы хочам вылезці з ямы-прорвы, з гэтае ваўчынае пасткі, у якой апынуліся напрыканцы XX стагоддзя.

Але, як і заўсёды, прамоўца не прамінуў правесці водападзел: аб'яднанне сіл дабра немагчыма з сіламі зла. Вось толькі хто будзе вызначаць каго да якіх сіл аднесці, па якіх крытэрыях? Не пралічыцца б.

Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч таксама зазначыў, што без ідэі аб'яднання нельга пераадолець няпросты шлях да сапраўднай дэмакратыі. На кансалідацыі нацыі канцэнтраваў увагу ў сваім выступленні старшыня таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Ніл Гілевіч. Ды і асноўны даклад ад сусветнай беларускай супольнасці «Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці», які зрабіў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, хаця і вытрыманы ў гістарычным ключы, быў напоўнены заклапочанасцю аб далейшым лёсе краіны і яе народа.

Што рабіць? Рытарычнае пытанне набывае сёння надзвычайную актуальнасць. Адказ на яго паспрабаваў даць намеснік старшыні Савета Міністраў Міхаіл Дзямчук. Але даклад аб праграме пераходнага перыяду не выклікаў у прысутных асаблівага захаплення. Пералік цяжкасцей і перашкод усім добра вядомы. Ён набіў аскоміну нават за мяжой. Што чакае нас наперадзе? Калі ж эканамічныя пераўтварэнні прынясуць палёгку тым, дзеля каго створана само жыццё? «Трэба, плануецца, мы павінны...» — усё, на першы погляд, выглядае прыстойна і заманліва. Чалавек жа думае пра хлеб надзённы, і смутак не пакідае яго. Бо ідзе час, а нічога не мяняецца ў іншы бок. Нават кілаграма цукру, што выдзелілі па картках, нельга купіць — паліцы ў магазінах пустыя. І гэта летам, калі можна нешта нарыхтаваць да зімовага стала.

На пасяджэнні «круглага стала» ў Акадэміі навук здзіўленне ўдзельнікаў выклікала паведамленне дырэктара Інстытута эканомікі АН Беларусі Генадзя Лыча аб тым, што Беларусь можа забяспечыць вытворчасць канчатковага прадукту толькі ў памеры 4 працэнтаў. Такія, маўляў, вывады зрабілі спецыялісты Інстытута эканомікі Дзяржэканомплана. Спрэчкі разгарнуліся не на жарт. Дэлегаты раптам звярнулі ўвагу на тое, што ніхто з прадстаўнікоў урада не прысутнічае пры абмеркаванні імі важных пытанняў гаспадаркі Беларусі. Прыйшлося Генадзю Лычу запэўніць эканамістаў і прадпрымальнікаў з замежжа: усе прапановы і пажаданні будуць разгледжаны на самым вышэйшым узроўні.

Наогул, у спрэчках па эканамічных праблемах крытыка пераважвала. На думку дэпутатаў, новага ў кіраванні эканамічнымі працэсамі пакуль мала, адсутнічае палітычная воля ў правядзенні неабходных рэформаў. Часцей прадстаўнікі ўрадавых колаў просяць, скажам, тую ж нафту, а патрэбна, скасоўваючы вертыкальныя сувязі, рабіць стаўку на гарызантальныя, актыўна шукаць новыя тэхналогіі. «Эканамічнай мадэлі няма, і мабыць, яшчэ доўга не будзе», — зазначыў, напрыклад, Алесь Янчанка з Львова. Ён, вядомы прадпрымальнік, прапанаваў, не чакаючы загадаў ад урада (бо калі яны будуць — канкрэтныя), самой дыяспары стварыць замкнутыя структуры, заняцца рэсурсазбагачальнымі тэхналогіямі, аб'яднацца па сістэме свайго, беларускага братэрства.

Моцна гучалі на з'ездзе і іншыя думкі, якія датычацца нацыянальна-культурнага жыцця, адраджэння мовы, захавання гістарычных традыцый. Здзівіла дыяспару становішча з беларускай мовай. Гаворкі і спрэчак шмат, а спраў — мала. Не развучыўся народ размаўляць па-беларуску. Хутчэй гэтага саромяцца тыя, каму не падабаецца мова, хто лянуецца вывучаць яе. Цікавае назіранне зрабіў айцец Майсюк з Польшчы: амаль кожны, з кім бы ён не загаварыў на вуліцы (вядома ж, па-беларуску) , тут жа пераходзіў з рускай на родную мову.

Яшчэ адна балючая тэма, якая гучала на з'ездзе: аб амаль абыякавых адносінах урада Беларусі да суайчыннікаў у краінах блізкага замежжа. Прыкра было чуць ад дэлегатаў з Балтыі пра іх жыццё-быццё. Прыкра за дзржаву, якая своечасова не паклапацілася пра сваіх землякоў. Застаецца спадзявацца, што, як паабяцаў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, адпаведныя карэктывы будуць тэрмінова ўнесены, і нашы землякі адчуюць увагу да сябе не толькі ў Латвіі, але і ў іншых маладых самастойных краінах.

Праблем на з'ездзе было акрэслена многа. Як вырашыць іх? Крок першы — яднанне беларусаў. У гэтым сэнсе Першы з'езд даў добры прыклад.

### З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

Эміграцыя стварыла ў замежжы свае ўстойлівыя асяродкі, грамадскія і царкоўныя арганізацыі, навуковыя і культурныя цэнтры. Гэта Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане, музей у Гайнаўцы на Беласточчыне. Многія беларусы — знакамітыя ў свеце людзі. Напрыклад, геолаг Ігнат Дамейка быў вядомым даследчыкам прыродных багаццяў Чылі, Герман Мінкоўскі стаў нямецкім матэматыкам і фізікам, адным з заснавальнікаў тэорыі адноснасці. Сёння шчыра працуюць для беларускай справы Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Сяргей Карніловіч (ЗША), Раіса Жук-Грышкевіч, Мікола Гранько (Канада), Янка Лізалюк (Англія), Міхась Навумовіч (Францыя) і інш.

З'езд завяршыўся прыняццем асноўных дакументаў. Звароты ўдзельнікаў форума да беларускага народа, да парламента і ўрада вызначаліся канкрэтнасцю і былі адобраны адзінадушна. А вось заява па вайсковаму пытанню абмяркоўвалася горача. Прапанова прадстаўніка Міністэрства абароны не прымаць яе выклікала хвалю абурэння. Мабыць яшчэ і па той прычыне, што многіх дэлегатаў усхваляваў лёс старшыні Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікалая Статкевіча, які нямала зрабіў для стварэння нацыянальнага войска і раптам быў звольнены ў запас «за дыскрэдытацыю афіцэрскага звання». Нават умяшанне самога падпалкоўніка запасу Міколы Статкевіча не адразу астудзіла дэлегатаў, што ўзнамерыліся «выказаць недавер» міністра абароны. Усё-такі развага ўзяла верх, і дабаўка «аб недаверы» была знята. У рэшце рэшт з'езд прыняў 8 дакументаў — заяў, рэзалюцый, зваротаў.

Апошняе пасяджэнне было прысвечана выбарам кіруючых і каардынуючых органаў. На пачэсную пасаду прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» па прапанове Васіля Быкава абраны акадэмік Радзім Гарэцкі. Быць старшынёй выканаўчай рады даверана гісторыку Ганне Сурмач, якая шмат рупілася на гэтым форуме. У далейшым з'езды Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», будуць праводзіцца раз у чатыры гады.

Час прабяжыць імкліва. Аб чым раскажам мы землякам на наступным вялікім зборы, што пакажам з адроджанага, набытага дзеля шчасця і дабрабыту? Гэта залежыць ад усведамлення годнасці кожнага з нас, ад таго, ці здолеем працаваць напружана і ўдумліва на карысць Бацькаўшчыны.

Юры Ганецкі.

### З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

Дзве вялікія хвалі эміграцыі, бежанства і эвакуацыі звязаны з першай і другой сусветнымі войнамі. Усходняя дыяспара папаўнялася высяленцамі ў ходзе гвалтоўнай калектывізацыі і неабгрунтавана рэпрэсіраванымі ў 30-я і пачатку 50-х гадоў, дэпартаванымі з далучанай у 1939 годзе Заходняй Беларусі. Савецкая партыйна-дзяржаўная палітыка вымусіла застацца за мяжой многіх ваеннапалонных, якія лічыліся здраднікамі, а таксама выехаць тых, хто працаваў у гады акупацыі ў цывільнай адміністрацыі, адукацыйных культурна-асветных установах.






Заснавальнікі:
Партыя народнай згоды.
калектыў рэдакцыі.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не абавязкова супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.**

**Адрас рэдакцыі:**
**Антонаўская, 8-а**

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксей Кароль

Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая. 11. Індэкс 63138, тыраж 7000 экз. Зак. . Ліцэнзія ЛВ N 135


 